Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 15 (66). Вільня, Нядзеля 13 Лютага 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., па 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаваньга залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Аб арыштах у Заходняй Беларусі.

### Канфіската „Сялянскае Нівы".

**Па загаду Камісара Ураду на м. Вільню канфіскаваны № 14 (65) „Сялянскае Нівы" ад 12 лютага с. г. за перадавіцу „Добрыя зьявы". Канфіската зроблена на аснове 129 і 263 ст. К. К.**

## Прамова пасла Б. Рагулі

### ў Сойме дня 4 лютага с. г.

(Працяг).

Чым выклікана арыштаваньне людзей, якія працуюць у звычайных абставінах і ў звычайна легальна істнуючай арганізацыі? За праступства, прадугледжанага 1-ай часьцінай 102 ст. К. К., якая стацьця пагражаець карай за прыналежнасьць да згавору, створаннага дзеля выпаўненьня пасяганьня на ўстаноўлены дарогай аснаўных праваў лад Польскай Дзяржавы, або на цэласьць яе дзяржаўнай тэрыторыі. Дзе той быццам, згавор? І дзе тыя згаворшчыкі? Паслоў нашых аддаюць пад суд, ім пагражаець цяжкі вастрог, але чаму Вы не аддалі пад суд першага згаворшчыка, а замест суду, Вы цяпер цалуеце яму рукі? Нашыя беларускія паслы, якія вядуць барацьбу за нашыя нацыянальныя правы, знаходзяцца ў вастрозе. А людзі, якія паднялі руку проці праўнага ўраду і п. Прэзыдэнта, пралілі шмат крыві, а ў тым ліку і беларускай, не сядзяць у вастрогах, але знаходзяцца на волі, а нават знаходзяцца цяпер па чале ўлады.

Дык з гэтага вывад: слабы хоць-бы і сьвяты ў вастрог, сільны, хоць і чорт ува ўладу. Ці гэта ня сорам, што дзеецца гэта ў XX веку, і не якой небудзь Мэксыцы ці ў афрыканскіх калёніях, а дзеецца гэта ў Эўропе ў Польшчы, якая прэтэндуе на цывілізаваную дзяржаву.

Пракураторыя ў сваей вернасьці да ўраду знайшла нават магчымасьць абвінавачаньня арыштаваных беларускіх паслоў па 2 пункту першай часьціны 110 ст. абвінавачаваючага за прырачэньне за сябе ці за іншых чужаземнаму ўраду перад абвяшчэньнем вайны, дапамогі ў яго ваеннай дзейнасьці проці Польшчы. Я думаю, што з боку пракураторыі гэта ёсьць мядзведзінная ўслуга, зробленая міністру замежных справаў, бо гэткага праступства можна толькі баяцца перад абвяшчэньнем вайны. Аб якой-жа вайне цяпер можна гаварыць? Вось ужо будзе год як усе польскія міністры замежных справаў толькі і гавораць аб супакойнай польскай палітыцы, а цяпер ні з таго ні з сяго ўрад абвінавачвае беларускі народ у пасярэднім прыгатаваньні новай вайны.

Праўда, што цяпер палітыку твораць ня міністры замежных справаў, але паны маршалкі і генэралы, а гэта з прычыны правакацыі, якая сягоньня апутала Польшчу, што амаль німа ў ей ніводнага здаровага месца.

Арыштаваных паслоў абвінавачана ў прыналежнасьці до камуністычнай партыі і за тое, што лятуцяць яны аб пераварoце ў Польшчы на карысьць гэных ідэяў.

Але ці прыналежнасьць пасла да камуністычнай партыі зьяўляецца такім праступкам, за які яго можна арыштовываць нават бяз выдачы яго Соймам? Мне здаецца, што не. А што гэта так, доказам гэтага ёсьць істнаваньне ў Сойме легальнай камуністычнай партыі. Дык іншая мера ёсьць для польскіх камуністых і іншая мера для гэтак званых камуністых Беларусаў. Паважаю ўсякую шчырую ідэалёгію, у гэтым ліку і камуністычную, а нават і анархістычную (Голас: здаровая ідэалёгія!) Кожнаму вольна лятуціць аб лепшай людзкай прышласьці і выбіраць тыя дарогі, якія, па яго думцы, будуць як найболей падхадзячымі. Ці-ж у Польшчы манархістыя ня толькі ня лятуцяць, але нават не гавораць аб скасаваньні рэспубліканскага ладу і рэстаўрацыі (ускрашэньні) манархіі? Гэта, відаць, не зьяўляецца супярэчным з інтарэсам польскасьці. Іншая рэч, справа Беларусаў: ім ня можна нават арганізаваць сваіх гуртоў, бо гэта палохае Вас, Паны Палякі. Помніце, што нас Ваш тэрор не перапалохае і не затрымае нашай справы. Мы яе пачалі і мы яе давядзём да канца, ня гледзячы на тое, што можа шмат хто з нас пакладзець свае галовы (Голас: на падушку). Былі гурткі, ёсьць гурткі і будуць гурткі ў тэй ці іншай форме і ня зніштожыць іх ніякая сіла. Урад зарана пачаў прадвыбарную кампанію. З усіх куткоў вылазе на верх адно — неляяльнасьць ураду ў адносінах да нас Беларусаў. Мэта гэтых арыштаў і гэтых так быццам згавароў, пабудованых на правакацыях ураду, гэта прыгатаваньне дзеля паступных выбараў. Вось калі ласка Паны! Слухаў з павагай п. рэфэрэнта, слухаў дзеля таго, каб выцягнуць нешта такое, што-бы давала праўдзівую зачэпку дзеля пазваньня маіх сябраў—Беларусаў на судовую адказнасьць і, прашу паноў, ніякіх доказаў рэфэрэнт тут ня даў. Прачытаў ён лекцыю аб камунізьме, імунізаваў (прытачыў) бяз паўнамоцва мысьлі п. Сохацкага, пастановы розных конгрэсаў і камуністычных канфэрэнцыяў, але аб Беларусах было гутарана зусім мала. П. рэфэрэнт апіраецца на 2 арт. праграмы Грамады, які кажа аб самаазначэньню народаў, аб стварэньню беларускай рэспублікі. Прашу паноў, калі гэтага ім ня можна было рабіць, чаму-ж урад не арыштаваў іх праграмы? Гавару проста і шчыра, што і ў праграме Беларускага Сялянскага Саюзу так сама ёсьць пункт аб самаазначэньню. Кожны народ, калі ён хоча быць народам, а не сьмяцьцём, мусіць лятуцець аб самаазначэньню мусіць імкнуцца да гэтага, гэта ёсьць права беспярэчнае і ніхто яму гэтага ня можа адабраць. Далей, прашу паноў, рэфэрэнт гутарыў аб рожных судовых працэсах, толькі ў тых працэсах датычыла розных людзей, але заўсім не датычыла Валошына, Мятлы, Тарашкевіча, ані Рака-Міхайлоўскага. Апрача таго такі аргумэнт, што нейдзе там меў быць п. Мятла. Паважаныя паны! Мог прыехаць правакатар, шпік, улезьці ў Грамаду, у той гурток і сказаць, што мае быць пас. Мятла і мае сказаць прамову і можа нават яшчэ нешта даваць. Але што меў быць ці гэта ўжо зьяўляецца праступкам? Трэба было даць факты, што ён быў, што ён гаварыў, што ён зрабіў, трэба даць дакумэнты. Ня ведаю, дзе мае быць п. рэфэрэнт сягоньня ў ночы.

Далей п. рэфэрэнт паклікаецца на пашпарты. Што-ж гэта за пашпарты? Думаю, што такія самыя пашпарты маюць і ў Związku Ludowo-Narodowym.

Кожны чалавек, каторы належыць да тэй ці іншай палітычнай партыі, мусіць мець білет сваей партыі і кожны хто належаў да беларускай Грамады таксама меў такі білет, быў гэта партыйны білет, пане рэфэрэнце, а не пашпарт. (Голас: але езьдзілі з гэтым у Маскву). Няхай пан возьміць білет „Związku Ludowo-Narodowego" можа пана такжа прапусьцяць (Вясёласьць на правіцы). Але пан рэфэрэнт ня даказаў, што на аснове гэтых пашпартаў можна было пераходзіць граніцу, што быў нейкі дазвол, нейкае распараджэньне, ці нейкі ліст ад каго небудзь з гэтых паслоў, у якім было-бы напісана, што на падставе гэтага пашпарту можна пераехаць. Бо-ж маем сёньня шмат людзей з карэннай нават Польшчы, якія лятуцяць аб тым, каб якім нябудзь спосабам прайсьці граніцу, каб якім спосабам пайсьці ў Расею, каб зарабіць кусок хлеба. І дапусьцім, калі-б ён ішоў з білетам тэй ці іншай польскай партыі, дык тады-б, паны, сказалі, што гэта таксама быў пашпарт?

Дык гэта зусім адкідаю, бо гэта ёсьць сьмешны доказ.

Далей п. рэфэрэнт гаварыў аб Навагрудзкім пав. аб тым, што ў Навагрудзкім павеце знайдзена аружжа, што былі шпікоўскія арганізацыі і г. д. і г. д. Паходжу сам з Навагрудзкага павету, бачыў тых вучняў з Навагрудзкай гімназіі, якія былі арыштаваныя, праўда ня ўсіх, і як чуў, ніякага аружжа ня было знайдзена, дык няма доказаў. Што тычыцца розных вінавачаньняў, дык, прашу паноў, Жука, вучня 7-ай клясы прыватнай беларускай гімназіі дапрашывалі ў паветавай паліцыі ў Навагрудку такім манерам, што лілі яму ў нос ваду і білі яго найстрашнейшым спосабам і давалі яму піць нейкі парашок з вадой, мусіць нейкі наркотык, і ён казаў сваей матцы, што ня знаў, што казаў і ня ведаў, што ён падпісываў (перарываньне). Так ёсьць, прашу паноў, і гэткія паказаньні могуць быць апорай дзеля абвінавачаньня ў здрадзе стану (дзярж. ладу) (Голас з права: Перад гэтым пагразілі яму, што яго заб'іцё). Апрача гэтага п. рэфэрэнт гаварыў, што сьведкі бачылі нейкую адозву п. Мятлы. Але-ж, пане рэфэрэнце, чаму пракураторыя не прадставіла ў арыгінале гэных адозваў. Дык ці гэта ёсьць падстава дзеля абвінавачаньня, што ён ёсьць шпікам і правакатаром. Вось беларускіх паслоў абвінавачваюць у тым, што зьяўляюцца нібы камуністымі і працуюць на карысьць апошніх. Гэта характэрыстычная мана. Не беларускія паслы вядуць камуністычную агітацыю, а Вы і Вашыя ўрады. Ваеннае асадніцтва, выдзіраньне зямлі ад нашых сялян, гэта ёсьць правакацыя да рознай дзейнасьці. (Галасы: гэта польская зямля).

А суды? Калі сын і зяць тагочаснага прэзэса акружнога суда ў Навагрудку п. Бохвіца, літэральна задушылі чалавека ў лесе, дык прысуджана іх на 6 месяцаў вастрогу з адлажэньнем кары на два гады. Калі злоўлена на маніфэстацыі ў Баранавічах ППС-аў некалькі людзей, дык прысуджана іх на два гады вастрогу. Гэта ёсьць мера справядлівасьці на крэсах для Беларуса і для Паляка. Ці гэта ня ёсьць правакацыя да рожных выступленьняў? (Голас: Беларускі народ добры, толькі вы благія).

А адбудова? (Голас: Балін аб гэтым нешта штось скажа нам). Пахаджу з вёскі, якая зніштчана ўсясьветнай вайной і людзі з гэнай вёскі жывуць у зямлянках, ні аднаго гроша не дастаюць на адбудову.

А побач жыве асаднік, які будуе палац, дзеля таго, што ён дастае 2.000 зл. што-год. Ці-ж гэта не правакацыя з боку ўраду да рознай дзейнасьці нашага народу? Гэта зьяўляецца правакацыяй. Хто зачыніў нашыя школы? Вы

роднае слова, як у касьцеле, прыкл. Барадзеніцкая парахвія Браслаўскага павету, у царкве, тэатрах, установах і г. д.

Дзеля прыкладу можна ўзяць некалькі польскіх прадстаўленьняў, якія адбыліся падчас Калядніх Сьвяткаў, як у Ёдах Браслаўскага пав. прадстаўленьне ладжанае этражай пажарніцкай у Барадзенічах і др.

Што-ж аказалася, хто быў на такіх вечарынках? Вучыцялі польскія, войты, сышчыкі і інш., а з сялян, нябольш пара асобаў.

Калі-ж ладзяцца дзе прадстаўленьні беларускія, -то туды за вёрст 15-ць зьяжджаюцца Беларусы інтэлігенцыя і сяляне. Заўсёды бываюць перапоўнены біткам салі, аб чым часта пішацца ў карэспандэнцыях.

Дзеля гэтага ясна, што беларускі тэатр мае вялікае значэньне для нас ува ўсіх галінах нашага жыцьця. Дык жадайма і стараймася, каб ня было такога кутка на Беларусі, дзе не ладзіліся беларускія прадстаўленьні, а мазурскія тэатры каб туды перабраліся, адкуль прышлі да нас!

*М. Пецюкевіч.*

### З тутэйшага жыцьця.

(Лыскава, Ваўкавыскі павет).

Паміж вёскаю Верашчакі і абшарнічкай Сукачовай паўстала спрэчка за кавалак выгану. Справа ў тым, што сяляне лічачы гэтую частку выгану прыналежную да вёскі поўнаўладна і самастойна карысталіся ею, пасучы сваю скаціну, што не падабалася абшарнічцы Сукачовай, якая мела прэтэнзіі да гэтага выгану.

На самаперш па загаду Сукачовай, праўдзівей яе камісара Дзынгелеўскага, — слугі Сукачовай пробавалі неяк уласнымі сіламі справіцца з сялянамі, але гэта не ўдалося. Рэч зразумелая, што ў гэтакім выпадку трэ' было-б зьвярнуцца ў суд, але панская „пыха" робіць сваё, нашто суд калі паліцыя на яе паслугах?!

Як па камандзе, (бо такі па камандзе), увесь паліцэйскі пастарунак на дзьвёх параконных фурманках, а гэтак сама і ўся дворня згуртаваўшыся разам зрабілі аблаву, каб загнаць у хлеў сялянскую скаціну, якую па тым трэ' было-б выкупляць у пана абшарніка. Калі гэтак дык і сяляне ўсею вёскаю вышлі таксама на свой уласны ратунак.

Безбаронныя сяляне многа ўцярпелі ад панскіх слугаў, але найболей дазнаў адзін чалавек, які быў на'т пакалечаны.

Справа пайшла ў суд і да гэтых часоў аж з 1923 года суд неяк спрытна ахіляўся, але настаў час расправы, бо галоўных спраўцаў Паўловіча і Станчыка (якія служаць ужо ў іншых паноў) ды цяпер ужо зво́льнены бы́ўшы заступнік камэнданта Міцюкевіча—пасадзілі за краты, а пан Дзынгелеўскі, які заварыў гэтую кашу, як нічога небывала пажывае на вольнасьці.

Гэтае зьявішча, ясна сьведчыць, што слугі панам патрэбныя толькі дзеля таго, каб яны (слугі) трымалі паноў на сьвеці, а калі слуге якое няшчасьце, дык пана гэта зусім не цікавіць.

Пішу гэта дзеля таго, каб гэтакае прыкрае здарэньне не магло стацца з кім іншым. Трэба паном служыць гэтак, як яны аплачваюць.

Бачыце, панам яшчэ аж дагэтуль сьняцца чароўныя сны аб мілай іх сэрцу паншчыне, калі чалавек быў іх уласнасьцю.

*Плата.*

## НАШАЯ ПОШТА.

**Галіне Алесю:** Ваш пераклад для газэты будзе завялікі. Вельмі ахвотна будзем друкаваць сцэнічныя творы (пажадана вясёлыя камэдыі), але каб занялі ня больш як 10 нумароў газэты. Газэту пасылаць будзем, калі прышліцё ня меней 1 зл. ў месяц.

**Міхасю Пілюціну:** Ваш верш крыху заслабы.

**Пятрусю Трыпуцкаму:** Аб настроях напісалі трохі замала. Газэту пасылаем ўвесь час, прысылайце падпіску.

**Язэпу Гілю:** Праграму, інструкцыю і газэту паслалі.

Мікалаю Макоўчыку, Улад. Станчыку, А. К. Чурыло, Гілю Я., Івану Дурэйко, Сідаровічу Тодару Тарасэвічу, Мікалаю Саку, Ануфраму Рашэтніку — газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Кіселя Тамаша 3 зл. 20 гр.

М. Курэйкі, Пётры Дзешковіча — па 2 зл.

Міхася Горына, А. Хаўтурэвіча, Мікалая Дзяміды, М. Igольніка, Б. Палянскага, В. Пяюна, С. Рагача, Б. Шыркевіча, А. Лявончыка, М. Куліны — па 1 зл.

## Кутох сьмеху і сатыры.

### З падслуханых гутарак.

— Якая рожніца паміж тэатрам „Kakadu" і „Białoruską Chatką w Wilnie!?"...

— А тая, што „Kakadu" праводзіць ігру артыстычных мініацюр, а „Chatka"—„grę świetlnie-kolorową"...

— Не, паночку! Гэта-ж занадта проста!...

— Ну дык тады інакш: „Kakadu" ёсьць прадпрыемствам артыстаў, а „Białoruska Chatka w Wilnie" прадпрыемства дэфэнзывы.

— І гэта, паночку, кожнаму і бяз вас ведама!...

— Ну дык больш я і не разумею!...

— А рожніца тая, даражэнькі, што ў „Kakadu" артысты страцілі капітал на арганізацыю свайго тэатру і цяперака стараюцца вярнуць яго, а ў „Chatce" Паўлюкевіч без капіталу спэкулюе беларускім імям і набівае сваю кішаню...

*Малая Пстрычка.*



## Беларускія Коопэратыуна-Гяндлёвыя Курсы.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры атрымаў дазвол на Беларускія Коопэратыўна-Гандлёвыя Курсы ў Вільні.

Курсы маюць распачацца каля 21-га лютага с. г.

Усіх кандыдатаў, якія падалі ўжо заявы некалькі месяцаў таму назад, і якія хочуць быць залічаны ў слухачы курсаў, просім неадкладна прыслаць дадатковыя заявы па адрасу: **Wilno, Zawalna 6 m. 5.** Бел. Інст. Гасп. і Культ.

Пры Курсах мае быць поўны інтэрнат; пэўны лік зусім незаможных слухачоў будзе звольнены ад платы за навуку і ад платы за інтэрнат.

*А. Більдзюкевіч*
Дырэктар Курсаў.



Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.